

**МАРШРУТЫ «БЕЛАВІЯ»** 2 стар.

**МЯЖА**

**АХОЎВАЮЦЬ РАЧНЫЯ ПАДРАЗДЗЯЛЕННІ** 2 стар.



**ГАСЦЁЎНЯ**

**МУЗЫЧНЫ «ОСКАР» Віктара РОЎДЫ** 5 стар.

**РАДАВОД**

**ПІНСКІЯ ЎРАЖАННІ Даніэля ПОЛАКА** 6 стар.



**СВОЙ ПОГЛЯД**

**ЛЕГЕНДЫ ПРА КАМЯНІ** 6 стар.

**ФІЛАТЭЛІЯ**

**СМАЧНА ЕСЦІ**

**ГУМАР** 8 стар.



**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

10 мая 2000 года
Цана 75 рублёў

**№ 19 (2681)**

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі

Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

**ПАМЯЦЬ**



● **Аляксей МАЦЮШКОЎ.**

Ветэран Вялікай Айчыннай вайны Аляксандр ЮДЗІЦКІ (на здымку) жыве ў пасёлку Ратамка Мінскага раёна. Яму 83 гады, але нягледзячы на свой паважаны ўзрост, адчувае сябе бадзёра. Мудрасць пражытых гадоў, часы ліхалецця навучылі яго галоўнаму — любіць жыццё, людзей, радавацца кожнаму новаму дню, кожнай новай вясне. Аляксандр Рыгоравіч, як і ўсе ветэраны Вялікай Айчыннай, лічыць Дзень Перамогі галоўным сваім святам. І адзначае яго, памінаючы тых сяброў і аднапалчан, якіх ужо няма.




Знак "Ветэран вайны 1941—1945 гадоў" выпушчаны ў Беларусі. Ім у гонар 55-годдзя Перамогі ўзнагароджваюцца ветэраны Вялікай Айчыннай. Яго тыраж — 153 тысячы экземпляраў.

**БелТА.**

У маі 1945 года пераможныя залпы гучалі неаднойчы. Фашысцкім логавам — Берлінам — нашыя войскі авалодалі ўжо 2 мая. 8 мая прадстаўнікі германскага вярхоўнага камандавання падпісалі Акт аб безагаворачнай капітуляцыі ўзброеных сіл фашысцкай Германіі, а Дзень Перамогі адзначаўся 9 мая. Святкавалі ў гэты дзень гарады і сёлы шматпакутнай Беларусі. Да мірнай працы вярталіся воіны-вызваліцелі.




Фота БелТА.

*Сустрэча воінаў-пераможцаў у Мінску.*

**З ПАШТОВАЙ СКРЫНКІ**

## ГЕРОІ БЫЛІ ПОБАЧ

Неяк давялося гасціць у шчырай беларускай сям'і Лубнеўскіх, што жыве ў вёсцы Мілакова ў заходняй Польшчы. Павал Лубнеўскі, які жыў на Вілейшчыне, апавядаў, што каля вёскі Габітацыя Вілейскага павета геройскі загінуў Іван Князеў з Мінска. Ён адзін вёў адчайны бой супраць гітлераўцаў, шмат іх паклаў, і таму Павал на ўсё жыццё запомніў ягонае прозвішча і што той паходзіў з Мінска.

А Браніслава Лубнеўская апавядала, што ў першыя дні вайны ў вёсцы Буракі Пастаўскага раёна атабарыліся акружэнцы — грузіны Пермен Гвісалі, які трошкі разумеў па-расейску, і Эмануэль Эмклюпэн, які нічога не разумеў па-расейску. Калі немцы запатрабавалі іх выдаць, то гэтыя грузіны (а яны былі вельмі прыгожыя) самі здаліся, каб немцы не палілі вёску, што іх прытуліла.

**Алесь БАРКОЎСКІ.**

**НАПЯРЭДАДНІ**

**"ЛІТАРАТУРНЫ ЭКСПРЭС ЕЎРОПА-2000".** З другога чэрвеня па семнаццатага ліпеня 2000 года адбудзецца адна з найбуйнейшых грамадскіх і культурных падзей, прымеркаваных да сустрэчы новага тысячагоддзя, — міжнародны праект "Літаратурны экспрэс Еўропа-2000". 100 літаратараў з 43 краін Еўропы накіруюцца ў шасцітыднёвую паездку па маршруту легендарнага Паўночна-Паўднёвага экспрэса, які пройдзе ад Партугаліі праз Іспанію, Бельгію, Германію, Польшчу, Літву, Латвію, Эстонію, Расію і Беларусь. Урачысты фінал адбудзецца ў Берліне. У дваццаці гарадах маршрут "Літаратурны экспрэс" зробіць прыпынкі, каб у рамках публічных чытанняў, дыскусій і буйных культурных святаў абмеркаваць праблемы агульнаеўрапейскай будучыні, моўнай і літаратурнай разнастайнасці Еўропы.

9 ліпеня 2000 года пройдзе вялікае тэатралізаванае свята на радзіме Янкі Купалы ў Вязынцы. Сярод разнагалосся літаратур будзе годна гучаць і мова Янкі Купалы. 10 ліпеня ў Мінску адбудуцца літаратурныя сустрэчы, дыспуты, семінары ў Доме літаратара, у бібліятэках, літаратурных музеях і кнігарнях Мінска. 11 ліпеня "Літаратурны экспрэс" накіруецца ў Брэст.

Праект знаходзіцца пад патранажам Еўрапейскай рады, Еўрапейскай камісіі, ЮНЕСКА і Міжнароднага саюза чыгункі. Удзел нашай краіны ў гэтым унікальным праекце засведчыць: беларуская літаратура валодае не меншым патэнцыялам, чым іншыя еўрапейскія літаратуры. У трэцяе тысячагоддзе нам ёсць што прыўнесці са скарбніц чалавечага духу. Гэты праект будзе адным са шляхоў Беларусі ў Еўропу.

Каардынатар праекта на Беларусі — Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы.

**Віктар ЯГОРЧАНКА.**

## «СЛАВЯНСКІ БАЗАР» ЧАКАЕ ГАСЦЕЙ

Сёлета далі згоду прыехаць у Віцебск на традыцыйны фестываль прадстаўнікі ўсіх славянскіх краін і славянскіх этнасаў. Сцягі 31 дзяржавы ўздымуцца ля летняга амфітэатра.

**АЛІМПІЯДА-2000**



Беларускія скакухі ў ваду з трохметровага трампліна майстры спорту міжнароднага класа Святлана Аляксеева і Алена Дземядовіч заваявалі алімпійскія ліцэнзіі ў індывідуальных скачках.

НА ЗДЫМКАХ: на трампліне Святлана АЛЯКСЕЕВА; у скачку Алена ДЗЕМЯДОВІЧ.



БелТА.

**НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ**

● **Алена КОНАНАВА**, *кандыдат гістарычных навук.*

## ПЛЁН ДЫСКУСІЙ

У студэнцкай аўдыторыі праходзіла дыскусія... Звычайная справа для маладых людзей. Лектар задае тэму, акрэслівае пытанні, студэнты прапаноўваюць сваю інтэрпрэтацыю адказаў і рашэнняў, якія каменціруюцца абодвума бакамі.

Дыскусія, якую мне давялося назіраць, праходзіла ў Свабодным універсітэце Берліна, а яе ўдзельнікамі былі нямецкія студэнты. Планавая тэма, што абмяркоўвалася ў аўдыторыі, знаходзілася ў сферы інтарэсаў будучых палітолагаў. Трактаваліся падзеі другой сусветнай вайны, падчас якой з акупіраваных фашыстамі земляў у Германію гвалтоўна зганялася мірнае насельніцтва — так званыя "остарбайтары", і нямецкая прапаганда апраўдвала гэтую незаконную акцыю. Дыскусія падводзіла вынікі спецыяльнага семінара, куды запрашаліся ў якасці лектараў гісторыкі, філосафы, журналісты з многіх краін, у тым ліку Польшчы і Беларусі.

Нягледзячы на тое, што пасля заканчэння вайны прайшло 55 гадоў, абмеркаванне было вельмі ўдумлівае і дэталёвае. У яго ходзе прыводзіліся факты, дэманстраваліся фотакопіі плакатаў і іншых агітацыйных матэрыялаў, аналізаваліся прапагандысцкія заклікі, якія выкарыстоўвалі фашысты, узнімаліся пытанні, звязаныя з адносінамі да "остарбайтараў".

**Заканчэнне на 2-й стар.**

NEWS FROM BELARUS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BELARUS

АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ



Шматлюдным мітынгам, ускладаннем вянкоў да брацкай магілы воінаў, што загінулі пры фарсіраванні Дняпра ў раёне Лоева, азнаменаваўся пачатак аховы дзяржаўнай мяжы з Украінай па рацэ Днепр. Зараз на водных рубяжах па Дняпру будзе несці дазор рачная флатылія беларускіх пагранічнікаў з шасці катэраў, два з якіх перададзены пагранічнікамі Расіі. У абсталяванні прычала флатыліі прынялі ўдзел многія гаспадаркі раёна.

НА ЗДЫМКУ: урачысты праход катэраў уздоўж набярэжнай Лоева.



Дваіх індусаў і аднаго пакістанца затрымалі пагранічнікі Гомельскага пагранатрада ў раёне Мазыра. Вёз нелегалаў грамадзянін Беларусі. Як і большасць затрыманых на мяжы, яны пачалі свой шлях за мяжу з маскоўскай гасцініцы "Севастопаль", у якой фарміруюцца групы для нелегальнай перапраўкі на Захад. У 1999 годзе гомельскімі пагранічнікамі затрымана каля 900 чалавек, якія спрабавалі нелегальна перайсці мяжу.

НА ЗДЫМКУ: затрыманыя парушальнікі мяжы дастаўлены ў Гомельскі пагранатрад.

Фота БелТА.

НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

# ПЛЁН ДЫСКУСІЙ

Пачатак на 1-й стар.

Разглядаючы падзеі тых далёкіх часоў і іх прычыны, студэнты рабілі высновы не толькі канкрэтна-гістарычнага, але і агульначалавечага характару. У гэтым ім вельмі дапамагалі гутаркі з відавочцамі, а таксама людзьмі, якія прафесійна займаюцца вывучэннем прапагандысцкіх прыёмаў.

Маладыя людзі, што належаць да новай генерацыі, павінны ставіць перад сабой прынцыповыя пытанні, якія маюць стратэгічную каштоўнасць і значнасць. Што чакае чалавецтва ў будучыні? Якія сюрпрызы рыхтуе трэцяе тысячагоддзе ў грамадскім жыцці? Па меркаванні вядомых філосафаў, свет развіваецца па спіралі і шмат што з мінулага можа з'явіцца на новым вітку. Сутнасць развіцця якраз у тым, каб гэты паўтор быў станоўчым і выключаў памылкі папярэднікаў.

У гэтай сувязі асветніцкая і краіназнаўчая дзейнасць, якая вядзецца ў Беларусі, дапамагае вырашаць выхаваўчыя задачы, павышае адукацыйны і культурны ўзровень моладзі. Адным з напрамкаў такой работы з'яўляюцца інтэрнацыянальныя абмены. Студэнты дзяржаўных і камерцыйных універсітэтаў, каледжаў прымаюць удзел у сумесных праектах з партнёрамі з еўрапейскіх краін. Ініцыятар і актыўны ўдзельнік такіх абменаў — Федэратыўная Рэспубліка Германіі.

Паміж нашымі краінамі заключаецца двухбаковыя пагадненні, наладжваюцца разнастайныя культурныя, навуковыя, прафесійныя сувязі. Прыкладам гэтага можа служыць дзейнасць фонду "Нямецка-беларускае супрацоўніцтва", у кантакце з якім вядзецца работа з моладдзю і студэнтамі дзвюх краін. Тут міжнародныя канферэнцыі, тэматычныя семінары, прафесійныя школы, моўныя курсы, навуковыя даследаванні ў архівах Беларусі і Германіі. Выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў сумесна чытаюць лекцыі ў маладзёжных аўдыторыях. Узначальвае фонд прафесар Свабоднага універсітэта Берліна доктар Іаханэс Шлоац, які, акрамя педагагічнай і навуковай, вядзе вялікую арганізацыйную работу, каардынуе абмен і стажыроўку беларускіх і нямецкіх студэнтаў.

Больш чым за пяць гадоў у Германіі пабывалі сотні маладых беларусаў, якія знайшлі тут новых сяброў, аднадумцаў, калег. Наладжана супрацоўніцтва з іншымі фондамі і арганізацыямі Германіі: Нямецкай службай адукацыйных праектаў, рэдакцыямі нацыянальных газет, радыёвяшчання і тэлебачання, некаторымі фінансавымі арганізацыямі і банкамі, дзе праходзяць кароткачасовую прафесійную стажыроўку будучыя беларускія спецыялісты.

Сёлета ў Германію запрошаны студэнты і навучэнцы не толькі з Беларусі, але і беларусы, якія жывуць за яе межамі, напрыклад, у Літве. Такі падыход прадыктаваны пазіцыяй арганізатараў інтэрнацыянальных сустрэч, заснаванай на добразычлівасці, дабрачыннасці і партнёрстве. Імкненне беларускай дыяспары ўдзельнічаць у падобных праектах фінансава падтрымліваюць фонд "Нямецка-беларускае супрацоўніцтва" і асобныя людзі, якія разумеюць важнасць гэтай работы.

Неадойчы прыязджалі ў Беларусь і нямецкія студэнты. Падчас наведання Мінска, іншых гарадоў і мястэчак краіны ім прапаноўвалася праграма, багатая на разнастайныя цікавыя сустрэчы. Моладзь з Германіі мела магчымасць сустракацца са сваімі равеснікамі, шукаць агульныя інтарэсы як у звычайным жыцці, так і будучай прафесіі.



*Алена КОНАНАВА на назіральнай пляцоўцы купала рэйхстага ў Берліне.*

Можна пералічваць многія сумесныя мерапрыемствы, згадваць лічбы і на іх прыкладзе паказваць маштабы зробленага ў нашых краінах, дзе не забываюцца на тую бяду, што нясуць нявухтва і няўважлівае стаўленне да ўрокаў гісторыі. А ў рэшце рэшт, галоўным робіцца чалавечае паразуменне і ўзаемны давер, кантакты паміж пакаленнямі, чые продкі калісьці былі ворагамі, а афіцыйныя ідэалогіі краін — антаганістычнымі. Арганізатары інтэрнацыянальных сустрэч разумеюць важнасць сваёй работы, плён якой, магчыма, з'явіцца толькі праз гады.

МЕРКАВАННЕ

# БЕЛАРУСКАЯ АВІЯЦЫЯ: ПРАБЛЕМЫ І ПЕРСПЕКТЫВЫ

Геаграфічнае становішча Беларусі ў плане авіяперавозак даволі выгаднае: праз яе праходзяць паветраныя лініі, што злучаюць Еўропу і Азію. Штогод на тэрыторыі краіны выконваюць палёты паветраныя судны шматлікіх авіякампаній з розных краін свету.

Самая буйная беларуская авіякампанія — "Белавія" (пасажырскія і грузавыя перавозкі). Як паведаміў яе генеральны дырэктар **Анатоль ГУСАРАЎ**, дзякуючы ўдзелу "Белавія" ў глабальнай сістэме бранiравання, авіябілеты на яе рэйсы прадаюцца больш чым у 100 авіякампаніях свету. І пасля доўгага спаду аб'ём авіяперавозак пачынае расці: за першы квартал бягучага года ён павялічыўся на дзесяць працэнтаў. Спіс рэйсаў таксама пашыраецца: напрыклад, нядаўна адкрыўся новы рэйс на Бішкек, у хуткім часе плануецца ўвядзенне маршрута Мінск — Рыга — Талін і прамых палётаў у Будапешт.

А вось з палётамі ўнутры рэспублікі ёсць пэўныя складанасці. Так, калі спрабавалі ўзнавіць лінію Мінск — Віцебск — Масква, жадаючых ляцець не знайшлося: у параўнанні з чыгункай гэта вельмі дорага. У распараджэнні "Белавія", па словах Анатоля Гусарава, у асноўным самалёты ТУ-154, ТУ-154М, ТУ-134, а таксама ЯК і АН. Яны выконваюць палёты ва ўсе буйныя еўрапейскія аэрапорты, якія, як вядома, прад'яўляюць найбольш строгія патрабаванні да тэхнічнага абсталявання самалётаў, шуму рухавікоў і шкодных выкідаў у атмасферу.

Тым не менш, рэсурс гэтых самалётаў выпрацаваны амаль на 80 працэнтаў, гэта значыць, большая частка самалётаў "Белавія" засталося пятацць пяць-сем гадоў. Таму ў перспектыве перш за ўсё — набыццё кампаніяй новых машын.

У рэжыме жорсткай канкурэнцыі даволі паспяхова працуе і кампанія "Трансавіяэкспарт" (грузавыя перавозкі). Яна была створана шэсць гадоў таму на базе канверсії ваенна-транспартнай авіяцыі: былі мадэрнізаваны 20 самалётаў. Сёння, як паведаміў прэзідэнт гэтай кампаніі **Алег РЫЖЫКАЎ**, яны працуюць у асноўным на экспарт: у Расію, Кітай, Індыю, ААЭ, Еўропу. "Раней гэта кампанія "віселa" на бюджэце рэспублікі, сёння ж мы самі зарабляем грошы, — паведаміў Алег Васільевіч. — Ужо зарабілі больш за 12 мільёнаў долараў. І калі мадэрнізаваць усе самалёты, аснасціць іх па міжнародных патрабаваннях сістэмай спадарожнікавай сувязі, аб'ём перавозак можна павялічыць у 1,5 раза". Між іншым, адна з апошніх акцый кампаніі — дастаўка экспедыцыі на Паўднёвы полюс. Беларускі самалёт выканаў такую задачу ўпершыню ў свеце.

Поруч з "вялікай" існуе і так званая "малая" авіяцыя. Яе функцыі — авіяапатруляванне, пошукава-выратавальныя работы, аказанне хуткай медыцынскай дапамогі і, перш за ўсё, авіяцыйна-хімічныя работы. Апошнім часам колькасць авіякампаній недзяржаўнай формы ўласнасці расце. Але па-ранейшаму вострымі, па словах дырэктара прыватнай авіякампаніі "Гелікоптэр", застаюцца праблемы неплацяжоў, асабліва пры рабоце з сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі, і праблемы кадраў: былы прэстыж прафесіі значна знізіўся.

Нэлі ПРЫВАЛАВА.

КОРАТКА

**У МІНСКУ ЗАВЯРШЫЛІСЯ ЮБІЛЕЙНЫЯ, ПЯТЫЯ ПА ЛІКУ, ДНІ ЭКАНОМІКІ ЗЯМЛІ БРАНДЭНБУРГ.** Яны былі арганізаваны Беларускай гандлёва-прамысловай палатай і Прамыслова-гандлёвай палатай Франкфурта (Одэр).

Паказальна, што з 1992 па 1999 год гандлёвы абарот паміж Германіяй і Беларуссю вырас у пяць разоў. Сярод краін СНД Беларусь на другім месцы пасля Расіі ў спісе асноўных гандлёвых партнёраў ФРГ.

**У КАНЦЭРТНАЙ ЗАЛЕ "МІНСК" АДБЫЛАСЯ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ АЛЬБОМА "ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ: НОВАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА"** з удзелам папулярных гуртоў Беларусі "НРМ", "Крама", "Палац", "Крыві", "Уліс", "Новае неба", "Тройца", "Нейра Дзюбель".

Альбом, выпушчаны зараз, з'яўляецца працягам першага кампакта "Вольныя танцы", які выйшаў у красавіку 99-га года і сабраў лепшыя беларускамоўныя кампазіцыі, створаныя за апошнія пяць гадоў. На кампакце і аўдыёкасеце, якія з'явіліся зараз, новыя песні 1999—2000 гадоў, таму да назвы "Вольныя танцы" дадалося ўдакладненне "Новая альтэрнатыва".

Увогуле ідэя запісу "Вольных танцаў" узнікла тады, калі пачалі падзіцца акцыі "Слухай сваё". Мэтай іх было сабраць лепшую беларускую музыку і прадставіць яе слухачу. Зараз ідэя трошкі трансфармавалася, і мы маем у выніку зборку хітовай беларускай рок-музыкі. Але асноўныя крытэрыі — беларуская мова і альтэрнатыўнасць музыкі ў другім выпуску "Вольных танцаў" засталіся.

**ЗАПРАШАЮЦЬ МАЛАДЫЯ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫ.** Неўзабаве ў парку імя Янкі Купалы ў Мінску адновяцца паэтычныя чытанні. З прапановай узнавіць іх выступіў не паэтычны гурток, а палітычнае аб'яднанне — адна з дзвюх маладзёжных фракцый Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады — "Маладыя сацыял-дэмакраты".

І ўсё ж палітычная арганізацыя — не культурнатворчае аб'яднанне. Таму сярод асноўных клопатаў маладых сацыял-дэмакратаў — парламенцкія выбары, што адбудуцца сёлета ў кастрычніку. Пакуль маладзёжная фракцыя не збіраецца прымаць у іх непасрэдны ўдзел. Але, як перакананы адзін з яе кіраўнікоў Ігар Дудзін, будучь абавязкова працаваць з тымі кандыдатамі ў дэпутаты, якія прытрымліваюцца сацыял-дэмакратычных ідэй.

Павел ГАРКІН.

УРАДЖАЙ



● Раман КАБЯК.

З наступленнем цяпла пачалі пасадку бульбы на эксперыментальнай базе "Белавусаўшчына" Пружанскага раёна. У супрацоўніцтве з НДІ бульбаводства і абласной вопытнай станцыяй гаспадарка займаецца элітнай вытворчасцю насення бульбы, збожжавых і зернебабовых. Для атрымання лепшага выніку палі поўнасцю падкормлены арганікай і мінеральнымі ўдабрэннямі.

НА ЗДЫМКУ: лёс будучага ўраджаю ў гаспадарцы даверылі аднаму з лепшых механізатараў Сяргею АХРЭМУ. Сёлета ён пасадзіць бульбу на 50 гектарах.

NACHRICHTEN AUS BELARUS * NOTICIAS DE BELARUS * NOTIZIE DI BELARUS * NOUVELLES DU BELARUS



АСОБА



# Я СУВЯЗНАЯ НА ГЭТАЙ ЗЯМЛІ

**Беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч прысвяціла сваёй землячцы — мінчанцы Людміле КАШЫЧКІНАЙ главу ў аповесці "У вайны не жаночы твар". У лёсе Людмілы Міхайлаўны і на самай справе было столькі трагічных паваротаў, што іх хапіла б на сотню двухжыльных мужыкоў.**

У гэтым доме гаварыць пра вайну не любяць. Але я ўсё ж прашу Людмілу Міхайлаўну ўспомніць, як яна змагла прайсці праз фашысцкія краты, канцлагеры і выжыць... Дзевятнаццаць раненняў — жывога месца амаль не засталося.

— Асабліва дрэнна мне вясной і восенню, у перыяд дажджоў, якія па падаконніку барабаняць, — расказвае яна. — Гэта нагадвае камеру-нару. Фашысцкія карнікі за сувязь з доктарам Клумавым кінулі мяне за краты. Яны выбрылі пасму валасоў на маім цемені і зверху, з вышыні, рытмічна падала важкая кропля ледзяной вады. Многія такога катавання не вытрымлівалі, страчвалі розум. Я вынесла ўсё: і "капеж", і "манікюр", і электрычны стул, і "расцяжку". Вось толькі да гэтай пары прасаваць, датыкацца да іншых уключаных электрабытавых прыладаў не магу...

Прыгожая бялявая тоненькая маладая жанчына з вялізнымі блакітнымі вачыма — такой Людміла Міхайлаўна глядзіць на мяне з фотаздымка ваеннага часу. Напэўна, карнікам дастаўляла асобае задавальненне катаваць яе на допытах, збіваючы бізуном так, што цела ператваралася ў адну незагойную рану. Яна страчвала прытомнасць, але ні членаў падполля, ні доктара Клумава не выдала. Тады эсэсаўцы кінулі Людмілу ў лагер, які яны зрабілі ў акупіраваным Мінску, на вуліцы Шырокай. Тут Вавёрка (такую мянушку Кашычкінай далі ў мінскім падполлі, у групе Ісая Казінца) і ўбачыла доктара Клумава, з якім яны разам перапраўлялі параненых акружэнцаў — салдат і афіцэраў — да партызан.

— На маіх вачах доктара і яго жонку адправілі ў машыну-душагубку, — успамінае Людміла Міхайлаўна. — А мяне арыштавалі 10 лістапада 1943 года ў бальніцы. Што з дачкой, пяцігадовай Наташай, я не ведала. Але тое, што яна не ў лапах у гітлераўцаў, зразумела ўжо на першым допыце. Пазней даведалася, што яе прытуліла, схавала ў сябе добрая жанчына, санітарка цётка Даша — Дар'я Грамыка.

Хутка Людмілу разам з іншымі вязнямі запіхнулі ў таварняк і павезлі на захад, у Францыю. Яна апынулася ў наваколлі гарадоў Сан-Поль і Краазет, дзе будаваўся тунэль пад пралівам Ла-Манш. Адсюль разам з дзвюма вязніцамі ўцякла. Хутка ў шахцёрскім пасёлку Барлі яны пазнаёміліся з удзельнікамі французскага Супраціўлення — Альбертам, Юзэфам, Франца́м, якія і прывялі іх у 1-шы савецкі батальён імя Сталіна. Былыя савецкія ваеннапалонныя дзейнічалі сумесна з мясцовымі партызанамі — макі.

— Вось тут, — заўважае Людміла Міхайлаўна, — мне давялося лячыць, апerыраваць, рабіць перавязкі. З педыятра стала ўрачом шырокага профілю.

Аднойчы "доктару Люсі" (так Кашычкіну звалі макі) загадалі часова пакінуць параненых і выканаць адно вельмі адказнае заданне: любой цаной сфатаграфаваць беспілотны нямецкі самалёт. Зразумела, аэрадром і падземны ангар, з якога і выляталі гэтыя самалёты, добра ахоўваліся. Аднак непадалёк было поле, засеянае салатай, агуркамі, капустай, апрацоўваць якое немцы наймалі французаў. Калі беспілотныя машыны — навінка гітлераўскай авіяцыі — вылядалі з-пад зямлі ці заходзілі на пасадку, тым, хто працаваў на агародзе, загадвалі легчы ўніз тварам. Хто паднімаў галаву — заставаўся на тым полі назаўсёды.

— Выдаць сябе за мясцовую жыхарку не склала цяжкасці, — расказвае Людміла Міхайлаўна. — Французскай мовай я валодаю не горш, чым роднай, рускай: бабуля-дваранка навучыла нас гэтай цудоўнай мове з дзяцінства. Дык вось, некалькі дзён я хадзіла на агарод, асвойвалася. Член падпольнага камітэта Супраціўлення Альберт выдаў уманціраваную ў муштук плёнку, да сукенкі мне прышылі тры гузікі, на адзін з якіх трэба было націснуць у момант здымкі.

Калі прагучаў загад "Усім легчы!", я завалілася на бок і, як толькі цень самалёта накрыў мяне, націснула на гузік. Фотаздымак атрымаўся! За выкананне такога адказнага задання сам генерал дэ Голь уручыў мне Баявы Крыж — адну з найвышэйшых узнагарод Францыі. Хутка я стала маёрам французскай арміі, удзельнічала ў шматлікіх баях.

— Ці даводзілася быць у Францыі пасля вайны?

— Не, ніводнага разу і не выбралася, хаця запрашэнняў было мноства. Ува мне з вайны жыве пачуццё страху пакінуць Радзіму і не вярнуцца. Успамінаю, як у сорак пятым мы ехалі дамоў. Ноччу на мяжы ля Брэста машыніст цягніка хвілін на пяць прытармазіў. Усе, нават параненыя, высыпалі з вагонаў. Людзі цалавалі зямлю, плакалі ад радасці. Жменю той зямлі, узятую з першага роднага прыдарожнага пагорачка, я захоўваю і цяпер.

Самым вялікім багаццем Кашычкінай, якая вярталася з фронту, былі шынель ды новыя боты, якія яна не абула з-за апухлай параненай нагі. У перапоўнены вагон улез маёр-ардэнаносец. Інтуіцыя падказала Людміле Міхайлаўне, што ён не той, за каго сябе выдае. Але дарога дадому зрабіла ўсіх бесклапотнымі. Яна задрамала, а калі расплюшчыла вочы — гаваркога маёра след прастыў. Шынель і боты ён прыхапіў з сабой.

— Вы, напэўна, не паверыце, — гаворыць Людміла Міхайлаўна, — але людзі падзяліліся са мной апошнім. Хто нёс цыбуліну, хто хустку, хто хлеб. Такімі былі мінчане пасля вайны.

Амаль 60 год Кашычкіна працавала педыятрам. Ёй было незнаёмае пачуццё грэблівасці. Вашывых, каросливых, саплівых дзяцей яна брала на рукі, заспакойвала, давала хлеб з кавалачкам цукру — пасля вайны, частавала яблыкам, цукеркай — у наш час. Іх маці да гэтай пары расказваюць пра цудоўнага доктара, з якім іх звёў лёс. Толькі некалькі год назад Людміла Міхайлаўна перастала кансультаваць хворых дзяцей. Але затое шчодра кансультуе сваю дачку, якая вырасла, стала ўрачом — галоўным дзіцячым псіхіятрам Міністэрства аховы здароўя рэспублікі.

— Людміла Міхайлаўна, вы перажылі такую вайну, нічога не шкадавалі ў бітве за нашу вялікую краіну. Але цяпер, калі яна распалася, што вы адчуваеце? — спытала я, развітваючыся. Кашачкіна доўга маўчала. Нарэшце адказала радком сваёй любімай паэткі Юліі Друнінай: "Я чувствую себя связною между теми, кто выжил и убит на войне..."

**Таццяна ХРАПІНА.**

ГАЛЕРЭЯ МАЙСТРОЎ





Фота Рамана КАБЯКА.

Палотны жорсткіх баёў Вялікай Айчыннай вайны ажываюць пад рукамі гвардыі маёра Юрыя Кірэева. Захапленне ў яго вельмі рэдкае: ён стварае макеты танкаў, аўтамабіляў, матацыклаў, фігуркі салдат і коней, а потым з іх дапамогай узнаўляе пэўныя ваенныя аперацыі з гадоў мінулай вайны. Карціны "22 чэрвеня 1941 года", "Бой пад Сталінградам" і іншыя з калекцыі Юрыя Кірэева дэманстраваліся ў музеі Брэсцкай крэпасці.

НА ЗДЫМКАХ: Юрый КІРЭЕЎ размалёўвае макеты; фрагмент панарамы "Уварванне (чэрвень 1941 г.)".

ЗДАРЭННІ

**ІНШАМАРКІ ВЯРТАЮЦЦА ДА ЎЛАДАЛЬНІКАЎ.** Камітэтам па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй пры МУС праводзіцца мэтанакіраваная работа па выяўленню, спыненню і раскрыццю злачынстваў у галіне крымінальнага аўтабізнесу.

Сёння крымінальны аўтабізнес, які пусціў свае шчупальцы ў рэспубліцы, наносіць значны маральны і фінансавы ўрон. Прычым часцей за ўсё зламыснікі арыентуюцца на аўтамашыны імпартнай вытворчасці, як больш дарагія і прэстыжныя. Аператыўнікамі ўпраўлення па гораду Брэсту раскрыты студзеньскі крадзеж "Аудзі-100". Двое мясцовых жыхароў затрыманы, аўтамашына вернута ўладальніку. Калегі з Магілёва вярнулі мінчаніну "Мерседэс-250", выкрадзены яшчэ ў лютым мінулага года. Супрацоўнікі з Аршанскага міжрайаддзела выкрылі "дзейнасць" траіх мясцовых жыхароў, якія ўчынілі крадзеж двух імпартных аўтамабіляў. "Мазда-626" і "Опель-амега" вярнуліся да сваіх уладальнікаў, а злачынцы прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці.

**Віктар БЫКАЎ, прэс-цэнтр МУС.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ



## МОЦНЫЯ ДУХАМ

Прадстаўнікі нацыянальных параалімпійскіх рухаў Беларусі, Даніі, Расіі і Швецыі правялі ў Цэнтры рэабілітацыі спартсменаў-інвалідаў Беларусі семінар і практычныя заняткі са спартсменамі-калясачнікамі. На занятках былі адпрацаваны практыкаванні са стужкай і мячом. Партнёрамі інвалідаў выступілі юныя спартсменкі.

НА ЗДЫМКУ: на трэніроўцы спартсменаў-калясачнікаў.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

САЦЫЯЛЬНЫ РАКУРС

# ДАПАМОГА? ТОЛЬКІ СВОЕЧАСОВАЯ!

03... Гэты нумар тэлефона мы набіраем, калі нам ці нашым блізкім тэрмінова патрабуецца медыцынская дапамога. І "хуткая" абавязкова павінна прыехаць: у горадзе максімум праз 15 хвілін пасля выкліку, на вёсцы — праз паўгадзіны.

Сёння ў Беларусі дзейнічаюць 24 самастойныя станцыі хуткай дапамогі і 115 яе аддзелаў пры раённых бальніцах. Акрамя таго, ствараюцца падстанцыі і пасты хуткай дапамогі. У выніку ніводны населены пункт краіны не застаецца па-за ўвагай гэтай службы.

Дыспетчары "Хуткай" прымаюць каля 1 600 выклікаў у суткі, а падчас эпідэміі грыпу ці, скажам, у навагоднюю ноч іх колькасць павялічваецца напалову. Таму кругласутачную вахту ў краіне нясе 791 брыгада медыкаў, у Мінску — 117, палова з іх — спецыялізаваныя, што значна паляпшае якасць дапамогі: рэанімацыйныя, кардыялагічныя, псіхіятрычныя і гэтак далей. Нядаўна з'явілася і унікальная неанаталагічная брыгада, якая едзе да немаўлят...

У цэлым колькасць выклікаў няўхільна расце: па ўсёй краіне за мінулы год яна павялічылася на 67 тысяч! Найбольшы працэнт прыпадае на радыяцыйна забруджаныя тэрыторыі — Брагінскі, Веткаўскі, Хойніцкі раёны, дзе насельніцтва асабліва пакутуе ад шматлікіх хвароб.

"Хуткая медыцынская дапамога" традыцыйна лічыцца прыярытэтнай службай Міністэрства аховы здароўя. З'яўляюцца спецыяльныя бальніцы хуткай дапамогі (толькі ў Мінску такая клініка прымае да 200 хворых у суткі), паступова мадэрнізуецца абсталяванне і састарэлы аўтамабільны парк. Раней урачы карысталіся машынамі маркі "РАФ". Пасля спыніліся на аўтамабілях "Газель". Акрамя таго, на службе медыкаў з'яўляюцца таксама добраўладкаваныя "Форды" і "Мерседэсы". Аднак па-ранейшаму востраЙ застаецца праблема камп'ютэрызацыі "Хуткай дапамогі", аснашчэння яе новымі тэхналогіямі і забеспячэння сучаснымі медыцынскімі прэпаратамі, патрэба ў якіх задаволена пакуль толькі на 85—90 працэнтаў.

Тым не менш, беларуская "Хуткая медыцынская дапамога" ўпэўнена набліжаецца да свайго 90-годдзя, якое будзе адзначацца восенню.

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**



*Ад сарака да шасцідзесяці складаных аперацый робіць штомесячна малады хірург Брэсцкай чыгуначнай бальніцы Аляксандр СУДАС — медык ужо ў трэцім пакаленні.*

**Фота БелТА.**



: Марына
няй школы
овічы аба-
учаснасці ў
пасніца ся-
214 горада
а Казлова
ў гарадах-
акет ство-

ота БелТА.

ГАСЦЁЎНЯ

*МЫ СЯДЗІМ з маэстра ў яго ўтульным дамашнім кабінеце, дзе піяніна як член сям'і — яму ўся ўвага. Вялікі партрэт гаспадара. Мастак адлюстраваў яго ў фраку з беласнежнай манішкай. Натхнёны твар, музычныя, быццам пявучыя рукі. Увесь яшчэ пад уладай музыкі... Такі і стаяў ён учора на сцэне Мінскай філармоніі, калі заціхлі апошнія акорды.*

*Шматлікія фотаздымкі на сцяне быццам нагадваюць яму пра тое, што было. Вось Віктар Роўда побач з Патрыярхам Аляксіем II, яго папярэднікам Патрыярхам Піменам, папам рымскім Іаанам Паўлам II. А вось з Патрыярхам Іерусалімскім Дзімідорам, з Уладыкам Філарэтам, з якім ён сябруе даўжэй, чым кіруе студэнцкім хорам. Польскі кардынал Глемп таксама сфатаграфаваны з дырыжорам. Гэтым быццам падкрэсліваецца, што талент заўсёды ад Бога. А вось ён — хлопчык побач з мужчынам у расе святара.*



**На Беларусі не вельмі шмат уладальнікаў "Оскараў". Два гады назад гэтай узнагароды быў удастоены хор Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР, прафесара, акадэміка Славянскай міжнароднай акадэміі, кандыдата мастацтвазнаўства, лаўрэата двзюх Дзяржаўных прэмій Віктара РОЎДЫ. 43 гады ён кіруе гэтым калектывам. Лічы, восем пакаленняў маладых людзей абнаўлялі галасы хору.**

# СВЯТАЯ ДА МУЗЫКІ ЛЮБОЎ

**— Віктар Уладзіміравіч, хто гэта побач з вамі? — пытаюся я ў маэстра.**

— Бацька, — расказвае Віктар Уладзіміравіч. — Я ж сын смаргонскага святара. Верыць у Бога, маліцца стаў з маленства. Грамаце вучыў нас са старэйшым братам бацька. Два гады хадзілі ў смаргонскую школу. А потым разам і паступілі ў духоўную семінарыю ў Вільні. Адукацыю там давалі сур'ёзную. Я і зараз добра ведаю нямецкую, грэчаскую мовы, латынь, магу свабодна гаварыць па-польску, па-літоўску. Тут жа я набыў і першыя навыкі спеваў. Аднойчы да нас на ўрок прыйшоў сам Рыгор Шырма, рэгент праваслаўнага сабора ў горадзе і педагог беларускай гімназіі. Ён прапанаваў спяваць у студэнцкім хоры Вільні.

Пасля вайны лёс зноў звёў мяне з Рыгорам Раманавічам. Некаторы час спяваў у ягоным ансамблі песні і танца ў Мінску. Потым паступіў вучыцца ў кансерваторыю і паралельна на медыцынскі факультэт універсітэта — мая маці марыла, каб я стаў хірургам.

**— І ўсё ж такі медыкам вы не сталі?**

— "Святая да музыкі любоў" вызначыла выбар. У Вільнюсе мне прапанавалі кіраваць царкоўным хорам, і я з радасцю згадзіўся. Якраз у гэты час у літоўскую сталіцу прыехаў хор Свешнікава. Паслухаўшы нас, Свешнікаў прапанаваў мне паступіць на вучобу ў аспірантуру пры Маскоўскай кансерваторыі. Там я вучыўся ў яго. А ў Літоўскай кансерваторыі — у прафесара Галкоўскага, вучня Рымскага-Корсакава.

**— Як жа апынуліся ў Мінску?**

— Пасля абароны дысертацыі мяне запрасілі ў Беларусь. Працаваў педагогам у кансерваторыі і адначасова дырыжорам у хоры Шырмы. Праз дзевяць год пайшоў дырыжорам хору на Рэспубліканскае радыё. І вось ужо 38-мы год кірую ім.

**— А "Оскар"? Раскажыце, як атрымалі гэту незвычайную ўзнагароду, бо мы больш знаёмыя з "Оскарамі" ў кіно...**

— З хорам Беларускай акадэміі музыкі мы неаднаразова ўдзельнічалі і перамагалі ў конкурсах і фестывалях у Малдове, Італіі, Польшчы. А тут новы міжнародны конкурс харавых калектываў у нямецкім горадзе Дармштаце. Упершыню ён праводзіўся гадоў пяць назад. Мы тады не ўдзельнічалі. Хор з Санкт-Пецярбурга атрымаў "Оскар" — за выкананне твораў польскага аўтара-авангардыста Пендзярэцкага. Няўжо мы горшыя за іх? Паспрабуем... Выслалі аўдыёкасету ў горад Дармштат і атрымалі запрашэнне не толькі выступіць мужчынскаму і змешанаму харам, але і спець духоўную музыку па ўскладнёнай праграме.

Мы таксама выконвалі творы польскіх кампазітараў-авангардыстаў — Пендзярэцкага і Кашэўскага і ў першы ж дзень заваявалі "золата". І другі дзень стаў "залатым". Змешаны хор узяў "золата" і кубак. І дзень трэці, як у казцы, прынёс цудоўны "залаты" дыплом нашаму мужчынскаму хору. Ну а ў фінале, калі барацьба ішла ўжо за "Оскар", наш хор выканаў складаную канцэртную кампазіцыю Гітава "Днесь Христос прииде на Иордан крестится".

Славяне заўсёды славіліся басамі, і, калі мае хлопцы ўзялі до-мажорны акорд, зала заціхла, а затым узарвалася авацыяй. Нават журы і тое не змагло застацца раўнадушным і заапладзіравала. А мы — італьянскую польку Рахманінава! У зале такое было... Давялося зноў паўтарыць. Журы выйшла, каб вынесці свой апошні вердыкт, а мы яшчэ трохі парадавалі публіку спірычуэламі — негрыцянскімі духоўнымі кантамі. І, як потым пісала адна нямецкая газета, журы не мела ніякіх цяжкасцей, каб вызначыць таго, каму з 20 харавых калектываў — удзельнікаў конкурсу — дастанецца "Оскар". Хору з Мінска!

**— А вы самі прадбачылі такі поспех?**

— Я спадзяваўся, што так усё і будзе. За жывое кранаюць толькі сардэчныя спевы. Можна выконваць правільна і холадна. А можна з агнём сардэчным. Веруючыя людзі ведаюць, што гэта такое. Большасць студэнтаў — удзельнікаў хору Беларускай акадэміі музыкі спяваюць у храмах і саборах. Без глыбокай веры ў Бога як, скажыце, спець: "Божа, даруй!" Ды яшчэ так, каб чужая душа адгукнулася?

**— Віктар Уладзіміравіч, я нядаўна была на канцэрце вашага хору ў Мінскай філармоніі. Спачатку ў зале было шумна, сабраліся ў асноўным дзяўчаты і юнакі. І раптам устаў нейкі хлопчык і крыкнуў: "Цішэй вы! Бог спявае!" Людзі засмяяліся, але тут жа сціхлі. Упэўнена: у глыбіні душы яны былі ўдзячныя дзіцяці, якое так дакладна прыкмеціла талент і шчырасць праваслаўнага хору.**

— Дзякуй. Я цалкам з вамі згодны: каб спяваць духоўную музыку, адной тэхнікі выканання мала. Мы, славяне, спяваем творы і Шуберта, і Брамса, і Шутца значна лепш за немцаў. Але ніхто іншы не выканае творы Рахманінава, Чайкоўскага так, як мы. Для гэтага патрэбна яшчэ багатая славянская душа, якая ўсё адчувае і кожнаму гледачу сябе аддае.

**— Мне вядома, што нядаўна вас адзначылі за ўклад у адраджэнне духоўнасці беларускага народа. Маеце вы, маэстра, і тры духоўныя ордэны — Марыі Магдаліны, князя Уладзіміра і маскоўскага князя Данііла. А якую ўзнагароду самі лічыце галоўнай?**

— Вышэйшай узнагароды, чым таленавітыя вучні, для мяне няма. Каля 700 маіх выпускнікоў працуюць у кожным горадзе, у кожнай вобласці Беларусі. Кіруюць прафесійнымі, царкоўнымі харамі, выкладаюць музыку і спевы ў школах. Яны — мой гонар, мая надзея, маё шчасце.



*Музычны "Оскар".*

**Гутарку вяла**
**Таццяна ХРАПІНА.**

ыбо, скаму
ь у Расіі і за
вук і Рускае
таварыства
царскім
звалені з
е Б. Дыбоў-
ена вярнуц-
пражыў тут

# ...Ы ДАСЛЕДЧЫК СІБІРЫ

ваў у Ада-
у Варшаве
ўніка У. Та-
ў кантакт з
онымі. Яму
у ў Томскім
ў еўрапей-
веях. Аднак
вырашыў
ы па дасле-
алёкага Ус-
з высылкі,
да экспеды-
кую выбраў
ы. На радзі-
валіся з ім
лічылі, што
шні раз, та-
давалася ім
жжа. Праз
е ў сталіцу
ецярбурга з
даследчыка
сустрэлі ў
аграфічным
ыбрала яго

правадзейным членам і ўзнагародзіла залатым медалём. Для новай працы вучонаму выдзелілі тысячу рублёў, забяспечылі неабходнымі прыборамі і кнігамі.

У 1878 годзе Дыбоўскі быў прыняты на пасаду ўрача Петрапаўлаўскай акругі і ў пачатку 1879 года выехаў на Камчатку. Праца на поўначы Далёкага Усходу была ў тыя гады звязана з вялікімі цяжкасцямі і нягодамі, таму месцы лекараў заставаліся вакантнымі. Так, пасада акруговага ўрача ў Ахоцкай акрузе пуставала 8 гадоў, а ў Гіжыгінскай яшчэ больш. Вучоны пражыў на Камчатцы пяць гадоў. Нялёгка яму бывала раз'язджаць па востраве па бездарожжы і ў дождж, і ў снежную слоту. Аб той пары свайго жыцця Дыбоўскі ўспамінаў у аўтабіяграфіі: "Мы пяць разоў аб'ехалі ўвесь паўвостраў з медыцынскай мэтай, а таксама з мэтай збірання заалагічных калекцый (прычым, чатыры разы на сабаках, а адзін раз летам верхам на кані) і неаднаразова (тры разы) наведвалі Камандорскія астравы".

Дыбоўскі вывучаў прычыны захворванняў на Камчатцы, мясцовыя лячэбныя фактары, упершыню правёў шырокае абследаванне тэрмальных крыніц паўвострава. Урач змагаўся з эпідэміямі, прапагандаваў сярод насельніцтва гігіенічныя навыкі, клапаціўся пра быт жыхароў Камчаткі і Камандорскіх астравоў. Для паляпшэння эканамічнага становішча насельніцтва Б. Дыбоўскі распрацаваў рэкамендацыі па земляробству і жывёлагадоўлі на паўвостраве, арганізаваў сабаліныя запаведнікі ў раёне Кранакі і Асачы, перасяленне на Камандорскія астравы паўночных аленяў — аплаціў іх правоз і кармленне ў дарозе. Алеуты склалі легенду пра "добрага белага Бога", які прыслаў ім аленяў, і падарылі яму шкілет вымерлай у XVIII стагоддзі жывёліны — марской каровы.

Пасля пяцігадовай службы на паўвостраве Б. Дыбоўскі падаў прашэнне на імя цара аб дазволе паехаць у водпуск у Пецярбург. Аднак вучонаму адмовілі, забараніўшы знаходзіцца ў сталіцы, а таксама ў сталічных і заходніх губернях.

Б. Дыбоўскі прыняў запрашэнне ўзначаліць кафедру заалогіі ў Львоўскім універсітэце. Прывезеных з Камчаткі экспанатаў хапіла, каб адкрыць у Львове заалагічны музей. Вучоны заняўся сістэматызацыяй і абагульненнем здабытага. У Львове і Варшаве арганізаваў выставу заалагічных, этнаграфічных, антрапалагічных матэрыялаў сваіх экспедыцый. Прыйшла заслужаная слава, пашана. Ён ужо быў вучоным з еўрапейскім імем. Яго працы перакладаліся і друкаваліся ў многіх краінах.

Б. Дыбоўскі выкладаў, акрамя заалогіі, і антрапалогію, пастаянна крытыкуючы расісцкія погляды. Пад уплывам каталіцкага духавенства Міністэрства адукацыі Аўстра-Венгрыі прапанавала яму не закранаць у сваіх лекцыях тэорыю Ч. Дарвіна, у якой яно бачыла "сімвал бязбожжа, амаральнасці і да таго падобных рэчаў". Аднак вучоны наадрэз адмовіўся адракацца ад сваіх поглядаў і ў выпадку прымусу яго да гэтага абяцаў пакінуць кафедру. Баючыся скандалу, венскі ўрад вымушаны быў адмовіцца ад сваёй задумы.

У верасні 1906 года, нягледзячы на добрае здароўе і велізарныя творчыя магчымасці Дыбоўскага, рэктар вызваліў яго "па старасці" ад усіх пасад у Львоўскім універсітэце. Але вучоны прысвяціў сябе навукова-даследчай працы. Вывучаў азёры Беларусі, Украіны, Польшчы (Свіцязь, Любань, Загаранскае, Чорнае) і даказаў іх ледніковае паходжанне, даў характарыстыку іх хімічнага складу і жывёльнага свету.

У пачатку першай сусветнай вайны даследчык жыў у сваёй сястры Мальвіны Наргалевіч-Дыбоўскай у маёнтку Нянькаў каля Навагрудка. Нямецкія захопнікі выгналі сям'ю сястры Б. Дыбоўскага і яго самога з дому, разрабавалі і спалілі іх сядзібу. Толькі з дапамогай нямецкага афіцэра, унука вядомага натураліста Аляксандра Гумбальта, Дыбоўскі атрымаў магчымасць вярнуцца ў Львоў, дзе застаў разрабаваны і паўразбураны дом. Сям'я вучонага жыла ў дрэнных умовах. Аднак, нягледзячы на гэта, Б. Дыбоўскі не пакінуў навуковую працу. Да апошніх дзён свайго жыцця падтрымліваў цесную сувязь з савецкімі вучонымі, жыва цікавіўся праблемай Ангарбуда. Ён прапанаваў таксама пабудаваць на Байкале пастаянную гідрабіялагічную станцыю. Гэта ідэя ў хуткім часе была ажыццёўлена Акадэміяй навук СССР.

ПРЫЗНАННЕМ заслуг вучонага было абранне яго ў 1927 годзе членам-карэспандэнтам Акадэміі навук СССР. Б. Дыбоўскі быў абраны таксама ганаровым прафесарам Львоўскага і Віленскага універсітэтаў. Акадэмія навук назвала яго імем доследнае судна на Байкале. Рэкамендацыі вучонага былі ўлічаны пры праектаванні Брацкай ГЭС.

Дажываў свой доўгі век Б. Дыбоўскі ў Львове. Памёр 31 студзеня 1930 года ва ўзросце амаль 100 гадоў і пахаваны на Лычакоўскіх могілках. Тысячы жыхароў Львова выйшлі праводзіць яго ў апошні шлях. Дыбоўскага, як удзельніка паўстання 1863 года, хавалі з воінскімі ўшанаваннямі. Надмагільны помнік вучонаму стаіць на адным з узгоркаў Лычакоўскіх могілак.

Як нельга лепш характарызуюць навуковы подзвіг Б. Дыбоўскага словы яго біёграфа Я. Даманеўскага: "Калі б тыя даследаванні, якія праводзіў Б. Дыбоўскі, праводзіла добра аснашчаная экспедыцыя, якая складалася з некалькіх вучоных, то вынікі, дасягнутыя ёю, можна было б лічыць вельмі вялікімі. А зробленыя адным чалавекам у такіх выключна цяжкіх умовах — яны проста выдатныя".

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

РАСІЯ

Віншую "Голас Радзімы" з 45-годдзем. Добрая яна газета ці кепская, але многія гады была амаль адзінай нітачкай рэгулярнай сувязі з Беларуссю, асабліва цяпер, калі прыязджаем у Беларусь раз у чатыры гады. Вялікая мая падзяка таму, хто дасылае мне яе. Я, у сваю чаргу, пастараюся дасылаць матэрыялы, можа што і прыдасца для друку ("Беларусы ў Сібіры" — тут жывуць нашчадкі Ягайлы, Радзівілаў, Сапегаў, Лышчынскага; "Ave Maria" — аб дзвюх Марыях, беларусцы і сібірскай абарыгенцы, чукчы, якія горача любілі Беларусь; "Як я шукаў свой 500-гадовы радавод" і іншыя). Але, каб газета была вельмі цікавай, вядома, трэба галоўнае — каб яна змагалася, як магла, за незалежнасць і адраджэнне. Культурна-этнаграфічны напрамак — недастатковы.

Недзе ў 1998 годзе я прыслаў у "Голас Радзімы" артыкул "Каго лічыць вялікім беларусам?", у якім крытыкаваў узвядзенне ў "вялікія беларусы" ("Голас Радзімы", № 12, 1998 год) людзей, якія выступілі ў свой час супраць карыстання беларускай мовай у Беларусі.

Хачу выказаць смутак і спачуванне прыхільнікам Беларусі з прычыны смерці М. Ермаловіча. Я быў знаёмы з ім асабіста, маю ягоныя лісты і ягоны асобнік "Старажытнай Беларусі" (з часопісаў) з прэзентацыйным надпісам. Мікола Іванавіч і ёсць вялікі беларус, да помніка якому рана ці позна мы прыйдзем пакланіцца.

Дамовіўся, што ў Сібірскім гуманітарным інстытуце ў новым курсе "Славяназнаўства" буду чытаць раздзел "Беларусазнаўства". Стараюся атрымаць згоду, каб на Новасібірскім TV аднавіць беларускі канал, які ціха сканаў пад кіраўніцтвам і манаполіяй таварыства "Беларусы Сібіры", і на ім рабіць рэгулярныя агляды "Голасу Радзімы" (у тым ліку).

Ці не збіраецца рэдакцыя "Голасу Радзімы" адкрыць сваю старонку ў Інтэрнэце?

З найлепшымі пажаданнямі

**Альберт МІТЭР.**

г. Новасібірск.

## РАДАВОД







# ПІНСКІЯ ЎРАЖАННІ ДАНІЭЛЯ ПОЛАКА

У старажытным Пінску, які знаходзіцца на паўднёвым захадзе Беларусі, адбыўся канцэрт вядомага амерыканскага піяніста Даніэля Полака, прысвечаны памяці яго бацькі. Па словах спадара Полака, ён усё сваё жыццё марыў пабываць на радзіме бацькі, які нарадзіўся ў Пінску сто гадоў таму, а ў 1921 годзе пераехаў у ЗША.

Яшчэ ў 1958 годзе Даніэль Полак стаў лаўрэатам Міжнароднага конкурсу піяністаў імя Чайкоўскага, а ўсяго прыязджаў у былы Савецкі Саюз і Беларусь 15 разоў. І толькі на гэты раз ён упершыню атрымаў магчымасць наведаць Пінск, за што шчыра падзякаваў тым, хто дапамог здзейсніць яго мару.

Канцэрт у Пінску, білетаў на які было не дастаць ужо за месяц, — падарунак піяніста землякам свайго бацькі. Гэтая падзея адбылася ў касцёле Св. Караля Барамея, пабудаваным у XVIII стагоддзі. Зараз у гэтым будынку размешчана гарадская канцэртная зала.

На Беларусі не так шмат гарадоў, дзе захавалася такая колькасць помнікаў гісторыі і культуры, як у Пінску. Паводле звестак мясцовых краязнаўцаў, гораду больш за 1000 гадоў, хаця афіцыйнай датай яго заснавання лічыцца 1097-мы.

**Альберт ЦЭХАНОВІЧ.**

НА ЗДЫМКАХ: Даніэль ПОЛАК; від на францысканскі кляштар; рака Піна; Езуіцкі калегіум.

**Фота аўтара.**

## ЗАМЕЖЖА

# БЕЛАРУСКАЯ МЕНШАСЦЬ У ПОЛЬШЧЫ

● **Ларыса ЯЗЫКОВІЧ**, *кандыдат гістарычных навук.*

ПРЫЧЫНАЙ іх была перш за ўсё праводзімая каталіцкім касцёлам акцыя рэвіндыкацыі праваслаўных святынь, з якіх большасць раней належала уніятам, а потым царскімі ўладамі была перададзена праваслаўным. Пэўная частка ліквідаваных цэркваў раней не належала ні каталікам, ні уніятам. Толькі ў першыя гады пасля атрымання Польшчай незалежнасці было рэвіндыкавана каля 500 праваслаўных цэркваў. Польскія дзяржаўныя ўлады выкарыстоўвалі рэвіндыкацыю як спосаб паскарэння паланізацыі "крэсаў усходніх". Пасля другой сусветнай вайны новыя польскія ўлады таксама імкнуліся падпарадкаваць сабе праваслаўную царкву. У 1948 годзе Руская праваслаўная царква дала згоду на аўтакефалію Польскай праваслаўнай царквы (перадваенную аўтакефалію лічылі несапраўднай, бо яна не была зацверджана ў Маскве). У сярэдзіне 1990-х праваслаўная царква ў Польшчы налічвала, па розных звестках, ад 600 тысяч да 1 мільёна верующых, з якіх каля 250 тысяч жылі ў Беластоцкім ваяводстве. У Польшчы існуе 6 праваслаўных епархій, каля 410 цэркваў і 3 манастыры. Частка беларусаў вызнавала рымска-каталіцкую рэлігію. Актыўная частка гэтай супольнасці на чале з беларускімі ксяндзамі дзейнічала ў структурах беларускай хрысціянскай дэмакратыі.

Аўтары даследавання лічаць, што ў міжваенны перыяд значная колькасць беларусаў варожа ставілася да польскай дзяржавы. На гэта было шмат прычын. Супраціўленне беларусаў выклікаў лозунг аб наяўнасці лішку вольнай зямлі на ўсходніх тэрыторыях Польшчы, а таксама правядзенне ў жыццё ў пачатку 1920-х гадоў палітыкі насаджэння асадніцтва. Пры гэтым асаднікі займалі самыя важныя пасады ў органах самакіравання і мясцовай адміністрацыі. Польскія дзяржаўныя ўлады ў міжваенны перыяд кіраваліся ў сваёй дзейнасці канцэпцыяй асіміляцыі нацыянальных меншасцей. Былі зроблены спробы схіліць на свой бок беларускіх дзеячаў і стварыць сярод беларусаў паланафільскі рух. Прыход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь 17 верасня 1939 года частка беларусаў сустрэла з энтузіязмам, асабліва там, дзе быў моцны камуністычны ўплыў ці найбольш адмоўна праявіла сябе польская адміністрацыя.

Пасля далучэння да БССР на землях Заходняй Беларусі развіваліся беларуская асвета і культура, беларуская мова стала дзяржаўнай. Важным было, што за сялянамі прызнавалася права ўласнасці на зямлю, канфіскаваную ў буйных землеўладальнікаў. Аднак на адносіны да савецкай улады адмоўна паўплывалі дэпартацыі ў глыб СССР палякаў, заможных беларускіх сялян і беларускіх грамадска-палітычных дзеячаў у 1939—1941 гадах, а таксама распачатая на гэтай тэрыторыі вясной 1940-га калектывізацыя. Пасля вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў летам 1944 года пры ўсталяванні новай польскай дзяржаўнай улады беларусы дапамагалі стварэнню яе мясцовых структур. Спачатку польскія ўлады станоўча ставіліся да нацыянальных патрэб беларусаў. Яны дазволілі навучанне на беларускай мове і культурную дзейнасць. Не было прымусу пры правядзенні акцыі абмену насельніцтвам з БССР. Рэпатрыяцыю выкарыстала параўнальна невялікая група беларусаў, галоўным чынам з рэгіёнаў, дзе яны складалі меншасць ці падвяргаліся рэпрэсіям з боку польскага антыкамуністычнага падполля. Аўтары даследавання падкрэсліваюць, што к канцу 1940-х гадоў становішча беларусаў у Польшчы значна пагоршылася, кульмінацыяй чаго была амаль поўная ліквідацыя беларускай асветы і значнае абмежаванне нацыянальнай культурнай дзейнасці. Але ў 1950-я гады было адноўлена беларускае школьніцтва, потым на хвалі палітычных перамен 1956 года польскія ўлады дазволілі стварыць Беларускае грамадска-культурнае таварыства і выданне беларускага штотыднёвіка "Ніва". Развівалася беларускае культурнае жыццё. Аднак у наступнае дзесяцігоддзе, калі пачаў праводзіцца ў жыццё тэзіс аб маналітным сацылістычным грамадстве ў Польшчы, большасць беларускіх школьных, асветных і культурных устаноў ліквідавалі. Найхутчэй працэс паланізацыі закранаў беларусаў, што пакінулі вёску і пераехалі ў гарады. Стала распаўсюджанай з'явай укрыццё беларусамі свайго нацыянальнага паходжання.

Змены 1980-х гадоў выклікалі ажыўленне белрускага нацыянальнага руху. Аднавіліся незалежныя выдавецтвы, якія прапагандавалі беларускамоўную літаратуру, пачало развівацца на якасна новым узроўні арганізацыйнае і культурнае жыццё. Пазней для аховы сваіх інтарэсаў беларуская нацыянальная меншасць стварыла палітычную партыю — Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, іншыя арганізацыі, у якіх да польскіх дзяржаўных улад быў шэраг патрабаванняў культурна-асветнага і гаспадарчага характару. Беларуская нацыянальная меншасць пачала выкарыстоўваць існуючыя ў Польшчы прававыя магчымасці, каб правесці сваіх прадстаўнікоў (іншым часам групуючыся з польскімі суполкамі) у органы мясцовага кіравання.

Асобы раздзел даследавання прысвечаны пытанням прававога статуса нацыянальных меншасцей у Польшчы , які вынікае як з актаў міжнароднага, так і ўнутрыдзяржаўнага права. У рамках Арганізацыі Аб'яднаных Нацый гэта пытанне закранаецца ва "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека", "Міжнародным пакце аб грамадзянскіх і палітычных правах", "Дэкларацыі правоў асоб, якія належаць да нацыянальных, этнічных, рэлігійных і моўных меншасцей". Акрамя таго, шмат увагі данай праблеме прысвячае Савет Еўропы і Канферэнцыя па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. Польшча падпісала 13 двухбаковых дагавораў, якія мелі дачыненне да спраў нацыянальнасцей, у тым ліку з усімі суседнімі дзяржавамі.

УВОГУЛЕ даследаванне Г. Халупчака і Т. Бравярэка ўключае ў сябе вельмі шырокі дыяпазон пытанняў — гістарычных, статыстычных, сацыялагічных, гаспадарчых і палітычных. Аўтары, маючы на ўвазе складанасць і спрэчнасць некаторых вылучаных пытанняў, імкнуліся захаваць асцярожнасць пры фармуляванні высноў. Тым больш, што толькі частка прадстаўленых у кнізе праблем абапіраецца на іх асабістыя фундаментальныя даследаванні, у большасці ж яны грунтуюцца на друкаваных матэрыялах публіцыстычнага характару. У выпадках найбольш складаных пытанняў аўтары імкнуліся прадставіць іншыя пункты гледжання ці падкрэсліць розніцу існуючых поглядаў. Аўтары маюць намер дапоўніць публікацыю асобна выдадзенай бібліяграфіяй друкаваных крыніц, якія тычацца праблематыкі нацыянальных меншасцей у Польшчы за 1990— 1996 годы, а таксама выданнем адпаведных найважнейшых дакументаў. Асабістую падзяку даследчыкі выказваюць прафесару Е. Тамашэўскаму за дапамогу ў працы над выданнем.

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 17, 18.**



## АНОНС




У верасні мінулага года "Голас Радзімы" паведамляў аб стварэнні ў польскіх Крынках цэнтра беларускай культуры Villa Sokrates. Аўтар гэтай ідэі — знакаміты Сакрат Яновіч вызначыў асноўную мэту задумы як дапамогу беларускай літаратуры прыжыцца ў Еўропе. Галоўны намер — выданне часопіса (спачатку раз у год). І вось намер ажыццёўлены: "Год беларускі 2000" пабачыў свет. У першым выпуску часопіса, які мае 170 старонак, — як пераклады замежных аўтараў на беларускую мову, так і, наадварот, літаратурныя творы і даследаванні творчасці беларускіх літаратараў на асноўных еўрапейскіх мовах.

У нумары "Года беларускага 2000" выступілі Нарбэрт Рандаў, аўтар нямецкай анталогіі беларускай прозы, артыкулаў пра беларускую літаратуру ў нямецкіх выданнях; Вірджынія Шыманец — французская даследчыца беларускага паходжання з артыкулам "Беларуская літаратура ў Францыі: Васіль Быкаў і Святлана Алексіевіч", у якім аналізуецца ваенная проза.

Лонданскі даследчык беларускай літаратуры Арнольд Макмілін спыніўся на аналізе апісання вясковага жыцця ў прозе Івана Пташнікава. Сярод аўтараў таксама Яўген Кабатц, знаўца італьянскай літаратуры, перакладчык; Юрка Трачук, навуковы супрацоўнік секцыі славянскай філалогіі Люблінскага універсітэта...

Другую частку альманаха складаюць пераклады на беларускую мову, зробленыя А. Хадановічам, М. Раманоўскім, Ю. Жалескам, Л. Баршчэўскім, С. Яновічам і іншымі.

## БЕЛАРУСКІ ПОГЛЯД

# ДЫКТАТАРЫ XX СТАГОДДЗЯ

● **Юры ВЕСЯЛКОЎСКІ** *(Англія).*

Нельга сказаць, каб нямецкі народ прагнуў вайны, ён перажываў цяжкі час дэпрэсіі і хацеў мець такі ўрад, які вярнуў бы яму нацыянальную годнасць і стабільнасць. Таму народ паверыў Гітлеру і пайшоў за ім.

Сталін чытаў "Майн Кампф" у перакладзе на рускую мову і, напэўна, разумеў намеры Гітлера на ўсходзе Еўропы, аднак шукаў з ім паразумення.

Англія і Францыя бачылі, як Гітлер узбройваецца, але гэтаму не заміналі. Спыніць яго можна было толькі мілітарнай інтэрвенцыяй, але вынік яе быў няясны. Таму нічога не было зроблена, і Гітлер спакойна працягваў сваё ўзбраенне.

Ліга нацый аказалася мала аўтарытэтнай, досыць бяздзейснай установай, у якой не было еднасці. У такім бязладдзі Гітлер заняў у 1936 годзе дэмілітарызаваную Рэйнскую правінцыю, у 1938 годзе заняў Аўстрыю, забраў ад чэхаў Судэты, ад Літвы — Клайпеду з правінцыяй.

Потым настала чарга Польшчы з вольным горадам Гданьскам (Данцыгам) і "польскім калідорам", што вёў да Балтыйскага мора.

Жадаючы пазбегнуць далейшай экспансіі немцаў, брытанскі ўрад прапанаваў, каб Вялікабрытанія, Францыя, Польшча і СССР выдалі супольную дэкларацыю абароны на выпадак пагрозы вайны адной з іх.

Савецкі ўрад падтрымаў такую прапанову, але не хацеў паказаць сябе яўным праціўнікам Гітлера. Польшча таксама не згадзілася на такі саюз, які дазваляў Чырвонай Арміі маршыраваць па яе тэрыторыі, бо ўсё яшчэ лічыла сябе вялікай дзяржавай.

Перагаворы ваенных місій Англіі і Францыі ў Маскве 14-га жніўня 1939 года ў справе супольнай абароны не далі задавальняючага выніку. Вядома было, што 10-га сакавіка Сталін сказаў у сваёй прамове, што заходнім дзяржавам не ўдасца ўцягнуць СССР у вайну з Нямеччынай. Такое сцвярджэнне Сталіна прыйшлося даспадобы Гітлеру, і пяць дзён пазней немцы акупіравалі Чэхаславакію і ўстанавілі на яе тэрыторыі свой пратэктарат.

Якраз год раней, 26-га сакавіка 1938 года, слушна пісаў у сваім лісце прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Н. Чэмберлен: "Я павінен прызнацца ў сваім глыбокім недаверы да Расіі. Я не веру, што яна здольная да эфектыўнага выступлення, нават калі б гэтага хацела. Я не веру і яе матывам".

Падобнае пісаў амерыканскі амбасадар у Маскве Чыльстон 19-га красавіка 1939 года: "Чырвоная Армія здольная да абароны граніц Савецкага Саюза, але не здольная весці вайну на варожай тэрыторыі... На Савецкі Саюз у еўрапейскай палітыцы нельга разлічваць".

19-га жніўня 1939 года на тайным пасяджэнні Палітбюро было прынята рашэнне ажыццявіць раней выказаны план Сталіна "вызваліць" Еўропу. Гэта быў план, які меў уцягнуць Еўропу ў вайну і чакаць, пакуль праціўнікі зморацца ў вайне. Тады Чырвоная Армія пачне сваё "вызваленне" народаў Заходняй Еўропы.

У паняцці бальшавікоў, вайна можа быць справядлівая і несправядлівая. Першая — гэта "вызваленне народаў ад рабства капіталізму", а другая — гэта "зняволенне народаў капіталізмам".

Аднак міністр замежных спраў СССР М. Літвінаў стаяў за "калектыўную бяспеку" супраць агрэсіі, што азначала саюз з дэмакратычнымі дзяржавамі — Англіяй і Францыяй. Але Сталіну, як дыктатару, дэмакратычныя прынцыпы не пасавалі. Ён палічыў больш карысным звязацца з дужай і дыктатарскай Нямеччынай. І, каб не злаваць немцаў, не мець перашкодаў у перагаворах з Гітлерам, 3-га траўня 1939 года М. Літвінава, які быў яўрэем, змяніў В. Молатаў. Такая змена азначала намер супрацоўніцтва двух дыктатараў.

22-га чэрвеня Молатаў звярнуўся да нямецкага амбасадара ў Маскве Шуленбурга, каб нармалізаваць палітычныя адносіны. Прапанова была прынята ахвотна. Перагаворы пачаліся неадкладна, адбыўся абмен лістамі паміж Гітлерам і Сталіным, што прывяло да падпісання 23-га жніўня 1939 года так званага пакта Рыбентропа—Молатава, дзе гаварылася аб узаемнай дапамозе і ненападзенні "друг на друга" і падзеле "сфер уплыву". Калі немцы пакідалі залу, Сталін сказаў Рыбентропу, што савецкі ўрад прымае пакт вельмі сур'ёзна і ён (Сталін) дае слова гонару: Савецкі Саюз не здрадзіць партнёру. Такім чынам было замацавана сяброўства Сталіна з Гітлерам, а не з заходнімі дэмакратычнымі дзяржавамі, якія сталі за захаваннем міру ў Еўропе, што нічога не давала Маскве. Цяпер Сталін меў нагоду вярнуць Расію ў межы 1914 года.

Падпісваючы гэты пакт, Гітлер і Сталін ашукаліся. Яны думалі, што пазбеглі вайны. Гітлер спадзяваўся, што справа з Польшчай за Данцыг яму ўдасца так, як з Чэхаславакіяй за Судэты і іншыя правінцыі, дзе пражывалі немцы. А Сталін быў задаволены, што пазбег вайны з Нямеччынай.

У жніўні 1939 года Сталін меў тры магчымасці (у еўрапейскім канфлікце): дамовіцца з Англіяй і Францыяй, дамовіцца з Нямеччынай або не дамаўляцца ні з кім, чакаць, адкладваць і застацца нейтральным у канфлікце. Аднак, як бачым, Сталін рашыў звязацца з Гітлерам, што азначала вайну.

Пакт Рыбентропа—Молатава меў часовае значэнне для Гітлера. Яму ўдалося ізаляваць СССР ад саюза з Англіяй, Францыяй і Польшчай на выпадак вайны з апошняй. Гітлер меў на мэце не толькі Данцыг і "калідор", а значна большае — славянскую прастору на ўсходзе аж да Урала.

Усё ж можна сказаць смела: каб не было гэтага пакта, не было б і сусветнай вайны, яе можна было б пазбегнуць мірнымі перагаворамі. Не што іншае, а пакт Рыбентропа—Молатава даў пачатак другой сусветнай вайне.

Нельга сказаць, каб дзень 1-га верасня 1939 года прынёс радасць нямецкаму народу, які пачуў вестку пра вайну. Гэтай раніцай, калі Гітлер ехаў у рэйхстаг, не відаць было на вуліцах людзей, якія б яго віталі, не было ранейшага энтузіязму. Яшчэ больш змрочнай стала вестка, што 3-га верасня Англія і Францыя аб'явілі вайну Нямеччыне.

Польшча капітулявала за месяц, але, не чакаючы капітуляцыі Варшавы, 25 верасня ў Берасці адбыўся парад нямецкага і савецкага войскаў у гонар супольнай перамогі над ворагам. Між тым аб гэтым парадзе нічога не было сказана ў савецкай прэсе, яго быццам не было.

Па жаданню Сталіна Рыбентроп зноў прыехаў у Маскву, дзе 28 верасня быў заключаны тайны дагавор, які дазваляў Савецкаму Саюзу акупіраваць Балтыйскія дзяржавы ўключна з Фінляндыяй, якая мела ўвайсці ў зону савецкіх уплываў. Савецкі Саюз запатрабаваў ад фінаў перанесці граніцу далей ад Ленінграда, за што абяцаў узамен тэрыторыю ў іншым месцы. На гэта фіны згадзіліся, аднак адмовіліся ад прысутнасці савецкай марской базы на сваёй тэрыторыі. У адказ савецкі ўрад скасаваў свой ранейшы дагавор з Фінляндыяй аб ненападзенні і 30-га лістапада 1939 года распачаў з ёю вайну. 26 савецкіх дывізій, 465 000 байцоў, рушылі супраць 9-ці фінскіх дывізій — 130 000 жаўнераў, тысяча савецкіх самалётаў супраць 150 фінскіх старых самалётаў. Аднак фіны біліся мужна, што выклікала сімпатыю і спачуванне ў шмат якіх краін свету. Ім аказвалася дапамога зброяй і добраахвотнікамі.

Сапраўднай мэтай Крамля з'яўлялася ўсталяванне ў Фінляндыі камуністычнага ўрада, які быў ужо падрыхтаваны. Але супраціўленне фінаў на фронце аказалася такім стойкім, што савецкі ўрад пачаў сакрэтныя перагаворы з урадам Фінляндыі ў Швецыі, дзе ішла размова толькі пра граніцу паміж дзвюма дзяржавамі.

Зімняя вайна каштавала Чырвонай Арміі 200 000 забітых, у той час як фіны страцілі 23 000. Мір быў заключаны 12-га сакавіка 1940 года. І хоць частка Карэліі адышла да СССР, вайна Савецкага Саюза з Фінляндыяй паказала слабасць Чырвонай Арміі. Камісарам абароны замест Варашылава быў пастаўлены Цімашэнка. Не абышлося і без новай чысткі ў армейскіх радах.

Цікава, што ніхто ў Лізе нацый не падняў пытання аб пачатку польска-нямецкай вайны ў верасні 1939 года. Але ў снежні таго ж года Ліга нацый пазбавіла Савецкі Саюз членства за напад на Фінляндыю. А прэзідэнт ЗША Ф. Рузвельт пра вайну Савецкага Саюза з Фінляндыяй сказаў перад кангрэсам амерыканскай моладзі ў лютым 1940 года: "Савецкі Саюз, як усведамляе ўсякі, у каго хапае мужнасці паглядзець у твар фактам, кіруецца дактрынай настолькі абсалютнай, што падобную цяжка знайсці ў свеце. Ён уступіў у саюз з другой дыктатурай і ўварваўся на тэрыторыю суседа, настолькі малога, што той не мог уяўляць ніякай пагрозы, не мог нанесці ніякай шкоды Савецкаму Саюзу і жадаў аднаго — жыць у міры як дэмакратычная краіна".

**Працяг. Пачатак у № 18.**

## ЛІТАРАТУРНАЯ СКАРБОНКА

# ГАРШЧОК

***ГУМАРЭСКА***

**Янка ЗОЛАК**

ДОКТАР КАРАНЕВІЧ толькі што вярнуўся дадому. Распрануўшыся і павесіўшы на вяшак паліто і капялюш, падышоў да пісьмовага стала і зморана апусьціўся ў мяккае крэсла. Яму хацелася крыху адпачыць пасьля турботных гадзінаў у бальніцы. Абапёршыся аб сьпінку крэсла, хацеў палажыць рукі на падлакатнікі і толькі тады заўважыў, што ён трымае яшчэ ў руках прыгожы бамбукавы кіёк. Твар доктара асьвяціўся ўсьмешкаю стомленасьці і адначасна задаволенасьці.

Ужо больш дзесяці гадоў гэты кіёк зьяўляецца неразлучным сябрам і спадарожнікам доктара. Больш дзесяці гадоў таму, калі Караневіч дваццаціпяцігадовым студэнтам мэдыцыны здаў экзамен і атрымаў дактарскі дыплём, ад радасьці ён быў на сёмым небе. Каб быць "арыгіналам", ён выпадкова купіў сабе гэты кіёк і з таго часу ніколі і нідзе з ім не разлучаўся.

Усё жыхарства мястэчка Смалякі, дзе Караневіч працуе доктарам ад студэнцкае лаўкі, так прызвычаілася да ягонага кійка, што аніяк не магло ўявіць сабе доктара бяз кійка і кійка бяз доктара. Навет з лёгкае рукі нейкага мястэчковага жартаўніка смаляхоўцы, убачыўшы доктара на вуліцы, гаварылі:

— Вунь ідзе кіёк з доктарам.

Гэтыя ўспаміны мільганулі ў галаве доктара і выклікалі ўсьмешку самазадаволенасьці. Ён палажыў кіёк перад сабою, на падлокатнікі крэсла, прымружыў вочы і аддаўся бяздумнаму адпачынку.

Не пасьпеў яшчэ доктар адчуць як сьлед асалоды адпачынку, як на панадворку затарахцелі чыесьці калёсы.

— Ужо некага прынёс нячысьцік! — незадаволена падумаў доктар.

У гэтую-ж хвіліну дзьверы доктаравага габінэту адчыніліся, і Караневіч пачуў:

— Доктар, даражэнькі, ратуйце!

Караневіч ускапіўся з крэсла. Інстынктыўна мацней сьціснуў у руках кіёк і азірнуўся. Ля парогу стаяў, засопшыся, успацелы селянін гадоў трыццаці пяці і нясьмела камячыў у руках шапку.

— Што сталася? — запытаўся доктар.

— Ой, паночку! — прастагнаў селянін. — Параска... жонка мая... памірае... Ратуйце!

— Ды што сталася?

— Параска мая... счарнела ўся... Хверчал кажа... апараца трэба...

— Дзе-ж тая Параска?! — пачаў траціць цярплівасьць доктар.

— Тут... на падворку... на возе... — селянін адсапнуўся. — На воз палажыць суседзі памаглі... а з возу зьняць ня дам рады...

— Што-ж з ёю?

— Жывот... хадзеце... хутчэй!..

Не распытваючы болей, доктар сарваўся з месца і кінуўся з габінэту. Селянін ледзь пасьпяваў за ім падбегам.

На ганку селянін выперадзіў доктара, падбег да воза і сарваў посьцілку, якою была накрыта хворая.

Доктар зірнуў на воз і... Раскацісты, як гром, басавіты рогат страсянуў тоўстую фігуру доктара. Конь спуджана дрогнуў і натапырыў вушы.

— Го-го-го!.. Га-га-га!.. Га-га-га!.. Го-го-го!.. — грымеў доктар.

— Ой, Божухна мой!.. Канаю!.. — стагнала хворая: — Паночку... ратуй!..

— Го-го-го!.. Га-га-га!.. — грымеў у адказ ёй доктар. Твар ягоны зрабіўся чырвоным, як вараны рак. Здавалася, вось-вось з гэтага твару цурком пырсьне кроў.

А селянін стаяў ля возу і зьбянтэжанымі, шырока расплюшчанымі вачыма пазіраў то на доктара, то на хворую жонку.

— Ой, паночку... сьмертухна мая прышла... — стагнала хворая што раз цішэй.

Раптам доктар адразу здушыў свой рогат, выцер з вачэй выціснутыя сьмехам сьлёзы ды яшчэ раз паглядзеў на воз.

Параска ляжала дагары, з пасінелым, перакрыўленым ад болю тварам. Сарочка яе была закасана па самыя пахі, а на голым жываце важна ўзвышаўся вялікі, як гарбуз, закураны гліняны гаршчок.

Доктар размахнуўся сваім кійком і...

— П-пок! — Толькі чарапкі пасыпаліся ад гаршка.

— О... о-о... ооох! — раптоўны крык жаху, не пасьпеўшы сарвацца з вуснаў хворае, перайшоў у глыбокі ўздых палёгкі.

Муж хворае на момант аслупянеў, а потым кінуўся зьбіраць чарапкі разьбітага гаршка. Хворая некалькі разоў глыбока ўздыхнула і села на возе, адкасала сарочку, закрываючы голае цела і сарамліва ўсьміхаючыся.

Убачыўшы, што жонка ўжо ачуняла, селянін радасна забегаў вакол воза і разгублена тлумачыў:

— А хверчал наш... цэлы хунт масла Парасцы на жывот вымазаў... Ніяк ня мог даць рады гаршку... Казаў, апараца трэба... рабіць у жываце дзірку... каб напусьціць у гаршчок паветра... А тут... — Селянін схапіў доктара за руку, у якой быў кіёк. — Дзякую панскаму кійку... Шчыра дзякую... Выратаваў Параску маю...

1947 год.

*Захаваны правапіс арыгінала.*

СВОЙ ПОГЛЯД

# ЛЕГЕНДА ПРА КАМЯНІ

● Яўген КАЗЮЛЯ.

Гэта было так даўно, што камяні ўжо і не памятаюць, як магутны ледавік прыцягнуў іх у гэтыя мясціны з далёкай поўначы. Раскідала іх па пагорках і лагчынах, па палях і лясах — ад дробных каменьчыкаў да сапраўдных волатаў. І на доўгія тысячагоддзі застылі яны ў нерухомасці пад зоркамі космасу маўклівымі назіральнікамі зямной гісторыі.

З цягам часу заўважылі камяні цікавасць да сябе людзей. З асаблівай пашанай адносіліся тыя да замшэлых валуноў, пра якія складалі легенды і паданні, надавалі ім імёны. Іх параўноўвалі з паганскімі багамі Велесам і Перуном, да іх ішлі, каб пазбавіцца ад хваробы і набыць сілу. А іншыя абыходзілі, бо нічога добрага не чакалі ад "Чортава каменя" ці "Чортава сляда". Не засталіся без увагі і меншыя камяні. Іх збіралі і будавалі непрыступныя вежы і сцены замкаў. Апрацаваныя адмысловымі майстрамі, яны станавіліся гарматнымі ядрамі і неслі смерць і разбурэнне.

Але людзі прыстасавалі камень і для іншага. Яны рабілі падмуркі да сваіх дамоў, і не было больш надзейных падмуркаў, чым складзеныя з камянёў. Парахнелі ўзведзеныя на іх сцены, а каменныя падмуркі заставаліся асновай для новых пабудоў.

А найвялікшай павагай карысталіся камяні-жорны. Сваім абліччам яны нагадвалі сонца і справу рабілі добрую, сонечную. І, нават адпрацаваўшы свой век, жорны не пакідалі свайго гаспадара. Яны станавіліся прыступкамі да хаты ці проста ўпрыгожвалі падворак.

Людзі здаўна заўважылі прыгажосць камянёў. Майстэрскі апрацаваныя, яны станавіліся помнікамі і мастацкімі творамі. Павагу да сябе камяні адчуваюць і сёння. Гэта і зразумела. Бо няма нічога больш трывалага і надзейнага, чым камень.

НА ЗДЫМКАХ: камяні ў лесе каля Старога Свержаня; муры старога замка ў Гродне; Мечыслаў БЭЙНАР — майстар па камені з гарадскога пасёлка Відзы; гарматнае ядро, знойдзенае на раскопках Крэўскага замка; скульптура з каменя ў студэнцкім гарадку Віленскага універсітэта; жарон млына ў вёсцы Аляхновічы Дзятлаўскага раёна; камяні — помнікі загінуўшым у канцлагеры Трэблінка (Польшча).

**Фота аўтара.**















ФІЛАТЭЛІЯ

# НАШ ЗЯМЛЯК ВУЧЫЎ ЛЯТАЦЬ САМАЛЁТЫ




Беларуская пошта ўявіла ў абарачэнне серыю з трох марак і блока, прысвечаных ураджэнцу Беларусі, сусветна вядомаму авіяканструктару, аднаму з піянераў рэактыўнай і звышгукавой авіяцыі, двойчы Герою Сацыялістычнай працы, доктару тэхнічных навук П. Сухому (1895—1975).

На трох асобных паштовых мініяцюрах і марках блока мастак Г. Долбік намаляваў бамбардзіроўшчык СУ-24, знішчальнік СУ-27 і штурмавік СУ-25. На купоне блока змешчаны партрэт П. Сухога на фоне стылізаванага чарцяжа рэактыўнага знішчальніка СУ-17 з геаметрыяй крыла, якая змяняецца.

Гэта ўжо другі выпуск беларускай пошты пра вядомага авіяканструктара. Першы адбыўся ў 1995 годзе (стагоддзе з дня нараджэння П. Сухога).

П. Сухі — наш зямляк: нарадзіўся ў гарадзе Глыбокае Віцебскай вобласці. У сакавіку 1918 года прапаршчык П. Сухі вярнуўся з фронту і пачаў працаваць настаўнікам матэматыкі ў чыгуначным вучылішчы ў Лунінцы. З-за наступлення польскіх войск пераехаў у Гомель, настаўнічаў у школе, дырэктарам якой быў яго бацька. У 1923 годзе ажаніўся з Соф'яй Цянчынскай, настаўніцай французскай мовы, з якою пазнаёміўся ў Лунінцы ў 1919 годзе. З 1925 года — інжынер у канструктарскім бюро Тупалева, з 1939-га — галоўны канструктар, з 1956-га — генеральны канструктар даследчага канструктарскага бюро. Канструктар многіх перадваенных самалётаў, баявога СУ-2, эксперыментальнага гіпергукавога бамбардзіроўшчыка Т-100 і многіх іншых рэактыўных самалётаў.

Імя П. Сухога прысвоена Гомельскаму політэхнічнаму інстытуту. У 1975 годзе ў Гомелі быў пастаўлены бронзавы бюст канструктара, у адной са школ Глыбокага адкрыты музей Сухога.

**Леў КОЛАСАЎ.**

НА ЗДЫМКАХ: марка, выдадзеная Белпоштай да 100-годдзя з дня нараджэння П. Сухога; паштовы блок з адлюстраваннямі самалётаў П. Сухога.




СМАЧНА ЕСЦІ

## КАЎБАСА СЯЛЯНСКАЯ, СМАЖАНАЯ З КАПУСТАЙ

Мякаць свініны нарэзаць дробнымі кубікамі, дабавіць рублены часнок, кмен, соль і спецыі, усё старанна перамяшаць. Прамыць свіную кішку, напоўніць яе фаршам і па краях перавязаць. Прыгатаваную каўбасу адварыць, пасля чаго абсмажыць і падаць з тушанай капустай.

Свежую капусту, моркву, рэпчатую цыбулю нашаткаваць, абсмажыць, дабавіць таматпюрэ, воцат, перац, крыху булёну ці вады і тушыць. За 10 хвілін да гатоўнасці ў капусту пакласці лаўровы ліст, цукар, соль, падсмажаную і разведзеную булёнам муку.

***900 грамаў свініны, 3 зубчыкі часнаку, 1 сталовая лыжка кмену, 25 сантыметраў свіной кішкі, спецыі, 50 грамаў сала, соль.***

## ШЧАЎЕВЫ БОРШЧ

У гарачы мясны булён кладуць нарэзаную кубікамі бульбу. Вараць да паўгатоўнасці. Затым дабаўляюць папярэдне вымытае і нарэзанае шчаўе і вараць да гатоўнасці. У боршч дабаўляюць зяленіва і па смаку смятану.

ГУМАР

Вартаўнік злавіў хлопчыка, які краў яблыкі.

— Нягоднік! — крычыць вартаўнік. — Я цябе зараз навучу, як красці!

— Ну слава Богу, а то мяне ўжо трэці раз ловяць.

* * *

Аўтаінспектар паказаў жэзлам матацыклісту, каб той спыніўся. Матацыкліст рэзка затармазіў, вылецеў з сядла і прызямліўся на жывот. Ускочыў і падбег да рэгуліроўшчыка:

— Што, я вельмі хутка ехаў?

— Не, — адказаў аўтаінспектар, — вы надта нізка ляцелі.

* * *

Стары фермер наведаў турму, дзе адбывалі пакаранне два яго сыны. Пасля ён зайшоў да наглядчыка.

— Прашу вас, паважаны, не маглі б вы даць ім трохі лягчэйшую працу?

— Выбачайце, — усміхнуўся той, — яны і так цэлымі днямі адлежваюцца.

— Дык гэта ж днём, а ўночы, як расказваюць сыны, яны капаюць нейкі тунэль.

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ.
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.**
Спецыяльны карэспандэнт **Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 1190.
Падпісана да друку 8.5.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).